Панядзелак, 13 кастрычніка 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

Год I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 17.

*Вільня, 13 кастрычніка 1919 г.*

...Плачуць яшчэ маткі ў Віцябску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць, бо забаронены, хаўтурны голас аб'імшэлых званніцаў Смаленску»...

(З *прамовы Прушынскага*).

Яшчэ шмат зямлі Беларускай стогне пад бальшавіцкім панаваньнем, пад гнётам чужынцаў з усходу.

Калісь гэты самы чужынец; толькі ў інакшай вопратцы, у мундзіры вураднiка, пристава ці губэрнатара цяжкім сваім ботам гныбіў нашу старонку, па іхняму „исконни русскій край“, калечыў душу народа, а праяву нацыянальнага пачуцьця караў як „крамолу“, цяцер—іншая вопратка, іншыя значкі, іншыя клічы, але тыя самыя захватнікі, але так сама стогне беларуская зямліца, і ў кожнай праяве нацыянальнага адраджэньня бачуць „контр-рэволюцыю“...

Вастрогі перапоўняны. Земля абліта бязвіннай крывёй не шкадуючы... Плачуць маткі, стогнуць людзі, маўчыць навет хаўтурны голас аб'імшэлых званніцаў...

Жыцьцё не ў магату...

Кожная душа рвецца туды, каб памагчы, а рукі абвісаюць бязсільна, бо памагчы няма рэальнай сілы.

Беларусы хочуць памагчы сваім братом. Беларусы хочуць злучыць усе беларускія землі, прагнаўшы ворага за межы сваей Бацькаўшчыны, беларус хоча праліваць сваю кроў за супольную справу побач польскага жаўнера.

Многа ўжо ад пачатку вайны пралілося беларускай крыві, але пад чужымі знакамі. І ні водная старонка ня зруйнована гэтак вайной, як Беларусь, дзе ідуць ваенныя змаганьні ўжо пяты год.

Думка-лятуценьне беларусаў здзейсьняецца. Да нас прыходзяць весткі, што ўжо хутка пачнецца фармаваньне беларускага войска. Шмат хто з нецярплівасьцю чакае той шчаснай хвіліны, калі пойдзе праліваць сваю кроў за родную справу.

Час той ужо не за гарамі. Але трэба памятаць, што ўтварэньне войска ў нашым палажэньні вымагае ня толькі брацкай помачю польскага народа, ня толькі гатоўнасьці нашых ваякаў аддаць сваю галаву за вялікае дзела — абарону сваей бацькаўшчыны, але вымагае зложыць усе свае сілы на аўтары агульнай справы. Трэба памятаць, што як зазьвініць гэтая вялікая часіна для нашага народа, калі пранясецца кліч „да броні!“, каб мы ўсе станулі, як адзін чалавек, да працы вызваленьня нашай Бацькаўшчыны. Ня толькі салдат, што йдзе на фронт, ваює за справу, але і кожны за фронтам, калі ён працуе дзеля сваей арміі. Усе сілы для арміі!—вось які павінен пранесьціся па ўсей Беларусі кліч.

Энтузыязм і вера ў справу—могуць зрабіць цуд. Адзін гэтакі цуд мы ўжо бачылі— гэта паўстаньне да жыцьця польскай арміі. Беларусы! наш чарод паказаць, што мы так сама горача любім сваю Бацькаўшчыну і дзеля яе гатовы на вялікія ахвяры.

Мы ўжо зрабілі вялізарнае дзела. Тое, што ў працяг гэтак кароткага часу зроблена намі для справы беларускага адраджэньня, гэта можна назваць цудам. Цяпер трэба рабіць далей пачатае дзела, тварыць нацыянальную армію, якая давядзе нас да будаваньня ўласнай дзяржаўнасьці ў вольнай неподзельнай Беларусі.

У такі мамэнт — усё на аўтар агульнай справы!

# Я і МОЙ НАРОД.

„Cały naród jest mój i wszystkie stronnictwa są moje. Żadne z nich nie zawiera całej idei i całej prawdy mego narodu".

**Hanna Zaherska**
(Sawitri).

Звычайна больш думаецца і гаворыцца аб тым, чаго народ патрабуе ад сваіх сыноў і што яны павінны для яго зрабіць; а меней зьвертаецца ўвагі на тое, якія павінны быць адносіны нас самых да нашага народа. Гэта дрэнна, дзеля таго што нармальна дык унешняя дзеяльнасьць чэлавека павінна быць адбіцьцем яго ўнутраніх перэкананьяў. Вучоныя назвалі-б гэта проэкцыяй. Я і мой народ—гэта ёсьць пытаньне гэтак сама важнае, як: слово і дзеяньне. Ніякай адасобнасьці нас ад нашага народа, а найвялікшае едзіненьне! Мне здаецца, што ідэал чалавека ёсьць стацца монолітам, значыцца, найбольш адналітай будовай. Праўда, што моноліт гэтак сама мог-бы выказаць у сабе прысутнасьць рознароднасьці, аднак гэта зусім ня шкодзіць яго еднасьці, якая ёсьць рэзультатам зьліцьця складовых частак. Не староніцтвы, не партыі ёсьць зло ў нацыянальным арганізме, але недастатэчнае або нераўнамернае зліцьцё іх у вагні ахвярнага каханьня агульнага дабра і ахвотнага служэньня яму штодзеннай працай. Праўду кажучы, усе староніцтвы неяк раздзеляюць паміж сабой ролі, бо яны адыграюць супольнымі сіламі вялікую гістарычную драму—А д р а д ж э н ь н е і р а з в і ц ь ц е н а р о д а і гэтак паслужаць агульнаму палепшэньню чэлавецтва. Усе яны патрэбны і дзеля таго ўсе павінны быць, хаця безупынна модыфікуюцца, пераменяюцца на шляху да поўнага зьліцьця з часам у вадно староніцтво—народ. Гэты ідэал будзе мець усё тое дабро, якое было распылена ува ўсіх староніцтвах, а адначасна аслабоніцца ад таго, што, быўшы благім, цягацела на іх жыцьці. Далёка яшчэ да гэтага ідэала, але ўжо цяпер кожны можа раздумываць аб сваёй прыналежнасьці да ў с я г о народа, каторага мы ёсьць частка. Будзем бачыць народ такім, якім ён ёсьць, і любіць яго, а не глядзець: багаты ён ці жабрак? Ня толькі багацтвы народа, яго скарбы — нашы, але і яго раны, і яго смуткі, і лахманы яго нашы. Не заплюшчываймо вачэй перад гэтым. Ведама, што інакшыя нашы адносіны да таго, што ёсьць добрае ў нашым народзе, а інакшыя да таго, што благое, але нестыдаймося супольнай нашай маці і супольнага брацтва навет з нягодным сынам нашага народа.

Думка Савітрі, якую я ўзяў як m o t t o для маей стацьці, я прачытаў у ваднэй з знамянітых „тыднявых кронік“ Болеслава Пруса ў „Tygod. Ilustrow.“ Прус адзін раз пісаў там больш - менш гэтак, што трэба было-б утварыць адну партыю, адно староннітство клерыкальна—паступова—нацыянальна—консэрватыўна—рэволюцыйна—лібэральна —соцыялістычнае... Ня памятую, ці я ўспомніў усе звязкі гэтага ланцуга, але самыя важнейшыя пэўне тут ёсьць.

Цяпер яшчэ не час, каб паасобныя староніцтвы дзеля гэтага спынілі сваю бытнасьць, бо яшчэ дагэтуль не прабіла адпаведная гадзіна, каб здарыўся гэтакі цуд. *Усе староніцтвы ёсьць мае, нашыя,* гэта выплывае з гэтага першага, што: увесь *народ ёсьць мой, наш. У* кожным староніцтве пры добрым хаценьні ды з мужыцкім розумам мы лёгка знойдзем шмат супольных з намі адзнак, быццым з галавы або з сэрца нашага вырваных. Толькі партыйныя фанатыкі ня згодзяцца з гэтым, што ні воднае з староніцтваў не ўмешчае ў сабе ўсей ідэі і ўсей праўды народа, але толькі іхнія часткі.

Калі як калі, але цяпер, у часе вострых партыйных змаганьняў, добра, калі памятаем гэтыя разумныя ды харошыя словы Савітрі. Асьцерагаюць яны нас перад цеснай партыйнасьцю, перад партыкулярызмам, бароняць нас ад заглядываньня ў вадну краму пад вывескай: Прадажа праўд гуртам і дэталічна.

Каму як каму, а прабудзіўшымуся да індывідуальнага жыцьця беларускаму народу патрэбна не заўзятая барацьба староніцтваў, але іхняя супольная праца як найляпей зразумелая.

Адрачэмося ад гэтай раны партыйнасьці, якой гнояцца старыя народы, мы маладыя!

**Кс. Ул. Толочко.**

# З ГАЗЭТ.

Не раз ужо польскія дэмакратычныя газэты зьвярталі ўвагу на тое, што прэдстаўнікі ўлады на правінцыі, а асабліва на вёсках ня ўсё робяць гэтак, каб узмацаваць

ідэю згоднага супольнага жыцьця двох братніх народаў — беларускага і польскага, У № 19 менскага „Звона“ мы знаходзім стацьцю, якая закранула гэтую самую справу.

У той час,—піша „Звон“—як у цэнтры Беларусі паміж польскай уладай і беларускімі палітычнымі кругамі наладжваецца контакт і некая супольная праца, у гэты час з правінцыі надыходзяць трывожныя весткі. Там паразуменьня паміж польскімі ураднікамі і мясцовым насяленьнем няма: няма і тых прыязных, людзкіх адносін, якіе-б, здаецца, павінны былі быць пасьля безпабашнага крывавага панаваньня бальшавікоў. На Беларусі няма таго чалавека, апрача хіба злодзея, каторы-б шкадаваў тых дзён, якія пражыў ён пад маскоўскім панаваньнем; беларускі народ глыбока ўдзячны таму, хто збавіў яго ад бальшавіцкага страхацьця, але не даводзілося нам чуць, каб вясковы тубылец выказаў здаволеньне тым, што цяпер робіцца на вёсках. Можна сьмела сказаць, што адносіны насяленьня да польскай улады на мясцох бязумоўна няпрыхільныя. Гэта асабліва трывожна, калі прыняць пад увагу, што час вымагае бязумоўнага ладу і згоды; гэта вельмі трывожна яшчэ і таму, што на Беларусь кваляцца ўсе расіейскія сілы, каторыя і пры патрэбнай згодзе пастараліся-б пасеяць нязгоду, каб выкарыстаць потым дзеля сваіх захватных плянаў.

Польскія ўраднікі на правінцыі абсалютна не разумеюць, дзе ім прыходзіцца служыць, і абсалютна ня лічацца з Беларускім насяленьнем. Яны разглядаюць Беларусь, як польскую зямлю, і на ўсё пазіраюць вачыма звычайнага шовіністы, каторы ніяк ня можа сьцяміць, чаму кругом яго жывуць не палякі, а нейкі іншы народ. Адгэтуль — непаразуменьні, нязгода і варажнеча. Асабліва-ж кепска тое, што пасады провінцыяльных ураднікаў пазаймалі тыя людзі з панскага стану, на каторых народ прывык глядзець, як на сваіх няпрыхільнікаў.

Само сабою разумеецца, што ўсім гэтым карыстаюцца беларускія адшчапенцы, каб яшчэ больш раздзьмухаць нязгоду, каб пасеяць варажнечу да Польшчы і вабіць яго да Маскоўшчыны. Народ наогул ня любіць рашучых перамен, а калі ўзяць на увагу, што народная гушча жыве старымі прывычкамі, каторыя вяжуць яго з Маскоўшчынай, дык трэба прызнацца, што быццам наўмысьля, робіцца ўсё, каб умацаваць гэты народны нахіл у бок свайго ворага, бо народ жыве цяперашнім, а ня будучынай, а сучаснасьць не дае яму нічога, што тварыло-б добрыя адносіны да польскага народу».

## У дарозе.

Цёмна, сумна ў сонным полі,
Як скрось сіта ймжыць імжака;
Воддаль прэе ў лесе лісьце,
Як шкелет тарчаць галіны.

З. БЯДУЛЯ.

# СЬМЕРЦЬ ПАНІ. *)

— Табе, дзядок, сьмех...—з укорам кажа дзяўчынка, падымаючы галаву ад стала, узіраючыся у лёкая сваімі яснымі поўнымі сьлязьмі вачыма. Блішчэлі яе вочы ад сьлёз і стары лёкай пачаў двоіцца ў яе вачох. Ганулька глядзела на дзеда са стараны і пры гэтым толькі ён прыкмеціў, як яна збляднела і схудала за апошні час, якія глыбокія сінія кругі у яё пад вачыма...

— Праўда, памізарнела ты, крый Божа!—шчыра шкадуючы яе кажа дзед.

Ад яго шчырага учасьлівага голаса дзяўчынка яшчэ болей разжалілася, абапёрлася лобам аб сьцяну і давай усхліпываць.

— Нябось, плачаш, дзевачка, крый Божа...

Лёкай падскочыў да яе і пачаў гладзіць дрыжачай рукой яе льняныя валасы.

— І куды, мне ўцячы — бацька дома бьецца... — адкрывае яна боль сваей душы перад дзедам.

— А што, дзевачка, рабіць нашаму брату? Падумай сама, куды мы дзенімся ўсе. На што я, дупліна старая, прыгодны? Што рабіць фурману, каторы ні Богу сьвечка, ні чорту качарга. Жонка яго пэўне прыбье, крый Божа. А што Анэці рабіць? А парабкам куды дзецца? — Паніч прыедзе ды усіх адгэтуль прагоніць.

— А я покуль што не пайду ад пані!—ўсхапілася раптам дзяўчынка і выставіла на дзеда ўжо сухія прамяністыя вочы.

— Ага, бачыш, ўзрадаваўся дзед, бо пані добрая...

— Добрая—уздыхнула дзяўчынка—мне яе шкада. І цьвёрдасьць мучэльніцы выявілася ва ўсей яе стройнай постаці.

— То, то-ж! Крый Божа, эх ты баязьлівенькая.,.

— А вось гэта горэй ўсяго, што я такая баязьлівая. Анэгдысь паня мяне паслала па бялізну ў другі цёмны пакой. Ухажу

*) Глядзі № 16.

Скрыгатаюць грудзі больлю,
Сэрцо ссе нуда—вужака,
Звод скрабе ў душы агнісьце,—
Будзіць будніе ўспаміны.

Еду, пхнуся бітым шляхам,
Па балоце конь плюскочэ,
А ночь крадзецца паціху,
Сыпе чары ў лева, ў права.

Пхнуся ўдвойчы з жуткім жахам,
Злыдні зіркаюць у вочы...
Ах, хаця-б не дацца ліху!..
Но, мой косю!.. Стой!... Канава!.,.

Смаленск 29/X — 18 г. **Янка Купала.**

---

## Плачэ восень...

Плачэ восень за вакном,
Сьлёзы плюскаюць аб шыбы,
Абняла трывожным сном
Непрытульныя сялібы.

Плачэ восень, стогне ў сне,
С пушчай, з ветрамі галосіць,
Якбы дзе каго кляне,
Ці аб шчасьці моліць, просіць.

Плачэ восень ноч і дзень,
Сьлёзы плюскаюць аб вокны,
А па хаце чорны цень
Лазіць, тчэ свае валокны.

Гэта ходзе, бродзе сум,
Душу мучэ ў сваіх сетках,
І трывожыць сказы дум,
Дум аб шчасьці і аб кветках.

**1915 г.** **Янка Купала.**

# КРОНІКА.

✝

сьв. пам.

**Ольга Якута.**

Яшчэ адна ахвяра цяжкай долі нашага вучыцельства... Нястала адной са шчырэйшых працаўніц на гонях Беларусі.

1-га кастрычніка ў в. Вароні Луг, Сакольскага павету, аддала Богу душу беларуская вучыцелька Ольга Якута 18-ці гадоў. Праз сваё кароткае жыцьцё не зазнала яна сьветлых дзён. Пасьля сьмерці маткі засталося шасьцёра малых дзетак. Ольга бы-

---

ажна нешта шарахнулася на шафе. Я абамёрла ад страху. Зірнула ў верх—а стуль два зялёныя агністыя вочы глядзяць на мяне. Я акамянела на мейсцы і нават крыкнуць не магла. Потым я давай прыглядацца ляпей, ажно гэто наш кот... Ах, цьфу табе, ад сэрца адлягло! і я пакрылася халодным потам і чуць жывая выскачыла с пакою.

Раптам усіліўся вецяр і вішнёвае дрэво хляснула вецьцям у шыбіну.

— Ой!—крыкнула пакаёўка.

— Але-ж, крый Божа, і пужлівая ты — шэпярнуў дзед.

На вуліцы завыла сабака працягла, жудасна. Дзед з дзяўчынкай змоўклі падыйшлі да дзьвярэй паніных пакояў і давай прыслухоўвацца. Хутка паказалася ахмістрыня, каторая забрала Ганульку, і яны пайшлі ціха на цыпачках да хворай пані. Астаўся лёкай адзін. Сабака выла за дзьвярыма, а дрэво вішнёвае вецьцям сваім барабаніла ў вакно, астаўляючы на шыбінах чорныя кроплі дажджа,—васеннія сьлёзы, якія расьцекаліся і муццю пакрылі шкло.

— На тваю галаву! на тваю галаву, сабака праклятая! Ні вытрываць, крый Божа—кажа хрыпла лёкай і згорбіўшыся падыходзе да вакна і прыкладываецца лобам да халоднага шкла. Доўга ўзіраючыся ён прыкмечае, як цёмныя дрэвы у садзе ляніва ківаюць галінамі, нібы дражнючыся вабюць у сваю непрытульнасьць пад вільготнае цёмнае небо халоднай ночы...

— Што гэта будзе са мною, што будзе?—думае лёкай,—дзе я дзенуся, калі паня памрэ? Хоць адзінокае было усё маё жыцьцё, але жыў спакойна ды ў чыстаце. Пан нябошчык, вечная яму памяць, так-сама быў някепскі чалавек. Крыўд і бед не знаў я ніякіх, крый Божа. Але што я буду рабіць цяпер, адзін, як той корч гнілы на пасецы...

Чуе ён у сваей душы, што тыя глыбокія карэньня, за якія ён трымаўся ўсё жыцьцё свае, перагнілі і ён ад іх адрываецца. Што хвілю ў дадатак яшчэ іх грызуць мышы і во, во—падыходзе канец—зараз перагрызуць. І бачыць ён сябе у думках агорняным нядоляй з жабрацкай торбай за пля-

ла самай старшай. Бацька апошнія грошы клаў на навуку старшай дачушкі, каб пасьля была падмога ў гадаваньні малодшых і вось дачакаўся. Скончыўшы Сьвіслацкую сэмінарыю, Ольга была вучыцелькай у беларускай школе ў Сакольскім павеце і, як маці, апякавалася ўсей сямьёй. Праслухаўшы цяпер Першыя Вучыцельскія курсы ў Вільні, яна дастала ад Школьнага Аддзелу Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны назначэньне ў адну з беларускіх школ у гэтым самым павеце. Аднак польскі інспэктар адмовіўся зацьвердзіць яе ў беларускую школу, прапануючы вучыць па польску, але яна, як шчырая патрiотка, не захацела вучыць беларускіх дзетак у чужой мове і засталася без працы і без куска хлеба, чакаючы лепшых дзён для сваей Бацькаўшчыны. У дабавак цяжка захварэў бацька... Дзеці малыя галодныя. Ня выдзержалі слабыя сілы і з гэтага гора-бяды дастала запаленьне мазгоў. Хварэла ня доўга.

Горадзенскі Беларускі Вучыцельскі Саюз і Грамада Моладзі сільна адчулі страту аднаго з лепшых сваіх сяброў. На суботніку 4 кастрычніка пасьля прамовы у чэсьць і памяць яе адсьпевалі гымн „Гэй хто жыў"..., а у нядзелю А. Архірэй атправіў паніхіду, на каторай сьпявалі вучыцялі і вучні з Грамады Моладзі.

Хай будзе табе, маладая працоўніца на ніве Беларускага Адраджэньня, лёгкай родная зямелька.

---

**Беларуская Народная Партыя.**

29 верасьня г. г. адбылася агульнае сабраньне Беларускае Народнае Партыі. На гэным сабраньню быў выбраны Віленскі камітэт партыі. Ў камітэт увайшлі: Янка Станкевіч (старшыня), Казімір Мядзёлка (сэкратар), Язэп Сенкевіч, Уладыслаў Казлоўскі і Іван Бэкіш. Не гледзячы на кароткае істнаваньне, партыя мае ўжо шмат арганізацыяў на правінцыі. Пачатак гэным арганізацыям далі сябры партыі, якія выехалі на правінцыю.

## БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА МОЛАДЗІ Ў ВІЛЬНІ.

9 кастрычніка адбылося пасядзэньне інцыятыўнай групы грамады беларускай моладзі ў Вільні.

На пасядзэньні было выбрана кіраўніцтва з 5-ці асоб: старшыня К. Мядзёлка, віцэ-старшыня І. Белькевіч. і м. Тулоўскі, сэкрэтар Л. Катавічанка і скарбнік М. Катовіч.

Грамада беларускай моладзі мае на мэце духоўнае і фізычнае разьвіцьце сваіх сяброў, шырэньне беларускай сьвядомасьці і культуры паміж беларускай моладзью і стварэньне з яе стойкіх ратаўнікоў за Адраджэньне Беларускага Народу і Дзяржавы.

Запісь у сябры прыймаецца часова ў канцэлярыі Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны (Вострабрамская 9) сэкрэтаром грамады.

## ПАПРАЎКА.

У № 10 нашай часопісі быў надрукаваны верш п. з. «Жніва», які быў праз памылку падпісаны:

---

чыма, у гэткую васенюю ноч, дзе небудзь на глухім гасьцінцу, аборваным, галодным, халодным. Дождж дробны і густы праз дзіравую шапку цяжкім шротам аб голы чэрап бьець... Крый Божанька... Уздыхае цяжка стары лёкай, прачыхаючыся ад сваіх горкіх думак толькі тады, калі дзьверы з вуліцы пачынаюць скрыпець адчыняючыся.

Гэта уваходзіць фурманова жонка, Адэля, у сваім сьвяточным кажуху, а за ёю малая дзяўчынка, босая, у бацькавай жакетцы.

— Добры вечар, дзяцька! як паня? — пытаецца Адэля. Лёкай толькі рукой махае, нічога не кажучы.

— А мой з доктарам яшчэ не прыехаў?

— Яшчэ няма, о крый Божа.

— Але-ж сьмерць так і чуецца у вашых пакоях...—Адэля пуглiва азіраецца па бакох, а яе малая дачушка туліць свой тварык да матчынай спадніцы.

— С таго часу—кажа лёкай — як пані спаведалася у бацюшкі, сьмерць так і пільнуе гэты дом.

Адэля жагнаецца.

— Божанька, Божанька, а што-ж гэта будзе з маім гультаём — кажа фурманіха—барані Бог, паня памрэ дык жа-ж мы з голаду падохнем. Колькі разоў я гаварыла яму: кінь паню, купі каня і займайся возкай, як Тодар з Юзаўкі Дык не!—кажа — прывык! А калі ўжо добра надаем, дык уцячэ с хаты, або маўчыць, як вады у губу набраўшы.

Яна загаварыла с сэрцам, голасна, пакуль лёкай ня цыцнуў на яе пальцам, каб змоўкла. Яны прылажыліся вушамі да дзьвярэй, каб паслухаць, але з глыб паніных пакояў нічога ня было чутно і яны адыйшлі ад дзьвярэй.

— Эт, неяк ды будзе, крый Божа... — пачаў яе пацешаць лёкай.

— Неяк ды будзе!—перэдразнівае яго злосна Адэля—і мой так тавора, калі я пачынаю дапекаць. Во дажыліся. Прырасьлі да старай пані, як губка да пагніўшай бярэзіны. Эх вы, абібокі! На што-ж вы варты, нікчэмныя вы людзі? Патрэбны былі вы пані старой ўсё роўна во як гэтая канапа, як гэты зэдлік. А калі цяпер паня памрэ, дык

К. Каганец. Хочам паправіць наш недагляд. Аўтор гэтага верша ёсьць **Я. Купала**.



**Палачане выганяюць князя.**

(*З Радзівілаўскай лет пісі.*)

Волелюбныя палачане спраўляліся вечэм. Вечэ кіравало дзержавай, выбірало сабе князя, а ня люб быў кназ «агнішчанам» (агнішчане пазьней сталі звацца „зімянамі“), дык, сабраўшыся на вечэ, пастанаўлялі выбраць сабе новага, а старога выгнаць. Надрукаваны тут старасьвецкі рысунак перэдае нам сцэну выганяньня нелюбога князя.

# Бібліографія.

У Варшаве паявілася ў польскай мове брашура Веслава Каліноўскага „Kwestja Wschodnia a Białoruś.“ Гэта ёсьць адзін з такіх галасоў польскага грамадзянства, які мы заўседы вітаем з радасьцю. Аўтор брашуры, кажучы аб ролі Польшчы на ўсходзе, піша гэтак:

„Польшча можа і павінна ўзяць у свае рукі кіраваньне ўсходняй палітыкай, павінна зрабіцца гэтакім цэнтрам, каля каторага маглі-б згрупавацца перш-на-перш б. землі расейскай дзержавы, якія лежаць паміж Балтыкам і Чорным морам, а далей — пры памысных варунках Чэхо—Славія, Юго—Славія і палудзенныя суседзі.“

Тады — як зусім правільна думае аўтор — расейскія пляны будуць разбіты, ро-

вас выкінуць адгэтуль, як мусар, як гной. Гэты зэдлік панамся другія людзлі забяруць; забяруць і сабаку, каторая вые па сваю паню, а вы жабраваць пойдзеце, кісьляціны вы нішчасныя!

Адэля выскачыла з другога пакою злосная і ціха зашыпела:

— Ты ўжо во зноў прыйшла? Там у паніным пакоі ўсё чуваць...

— Нябось,—блага засьмеялася ды ціхім голасам казала фурманіха — во нагадавала ты сало на сваім целі, а памрэ паня і вытрасеш гэто сало на вей-вецяр, ссохнеш, як хорт той; адна скура і косьці ад цябе астануцца, як паніч каленам с пакояў выпхне.

— Гадзіна!.. — прашыпела ахмістрыня, зачыніўшы за сабою дзьверы і вярнуўшыся да пані.

Лёкай глянуў на фурманіху. Яна была поўная, бярэмная, а твар быў худы, ўвесь у жоўтых плямінах. Толькі вочы гарэлі злосным агнём.

Благая ты баба!—падумаў лёкай — але разумнейшая за нас усіх. І тут ён толькі агледзіўся, які ён, лёкай, нікчэмны чалавек на сьвеці. Як нежывая рэч, быў ён у сваіх паноў, а цяпер во да чаго дайшло — прагонюць. Але ўжо позна, не пакіруеш жыцьцё ў другі бок. Ды дзе там, калі ён такі стары. А калі-б ён і быў маладым, дык і то не патрапіў бы гэта зрабіць: ні хапілаб на гэты сілы і хаценьня ні яму самаму і ні каму з яму падобных. Як нейкімі анучынамі і па сягоняшні дзень паны імі шчэліны пазатыкаюць. Здаецца ім, што і цёпла, і шчасьліва, і добра; але вось цяпер, як ўсё гэта пачынае рушыцца і дом стары руйнуецца, — вецяр вырывае гэтыя старыя анучыны і нясець на ўсе чатыры староны, рвучы ў шматы, разсеваючы людзям пад ногі...

— А чаму ты, ня гледзючы на мужа, сама нічога не патрапіш зрабіць, калі ты гэткая разумная? — запытаўся раптам лёкай у фурманіхі.

(*Далей будзе.*)

ля кіраўнічага цэнтра ад Расеі пяройдзе да Польшчы. Уселякая іншая развязка справы— гэта паварот пад маскоўскую гэгэмонію, гэта адрачэньне ад клічаў аб незалежнасьці для ўсіх народаў, якія вызваліліся і вызваляюцца з пад расейскага ярма — для ўсіх без вынятку.

Справа адносін польска - чэскіх, польска - літоўскіх і польска - украінскіх ужо выйшла на міжнародны рынак. Найменш за ўсё, здаецца, Антанта інтарэсуецца справай адносін Польшчы да Беларусі. Дзеля гэтага — кажа К. — Польская Дзержава і Беларуская Народная Рэспубліка павінны гэту справу развязаць самі, каб мець з гэтага ўзаемныя карысьці.

Далей аўтор апаведае аб тым, што ў Беларусі ўжо зрабілося ў напрамку дзёржаўнага будаўніцтва. Падчырківае значэньне ўсебеларускага конгрэсу ў Менску ў 1917 г., дзе было каля 2.000 дэлегатаў правамочных пастанаўляць аб долі ўсей зямлі Беларускай. Тады ўжо была зроблена пастанова, што Беларусь павінна быць асобнай дзержаўнай адзінкай як *Беларуская Народная Рэспубліка.* Далей гаворыцца аб пратэсьце Рады Бел. Народ. Рэспублікі проціў Берасьцейскай мірнай умовы, якая зрабіла раздзел Беларусі. Далей — аб стасунках пад окупацыяй нямецкай, якая ўселяк старалася перашкодзіць беларускаму дзержаўнаму будаўніцтву, і пад окупацыяй бальшавіцкай, каторая прымушана лічыцца з мінулымі фактамі, дала свой памятны маніфэст 1 студня 1919 г. аб незалежнай Беларускай савецкай соцыялістычнай Рэспубліцы.

Цяпер перад польскім урадам стаіць пытаньне, якое становішчо павінна заняць вольная Польшча да дзержаўнага будаўніцтва Беларускага Народа.

І адказ на гэтае пытаньне аўтор брашуры дае гэтакі:

„Трэба зрабіць сьмелае і вялікае дзеяньне: трэба чынна падтрымаць беларускае дзержаўнае будаўніцтва і культурна-нацыянальную работу—з гэтакім правільным пераконаньнем, што Беларусь пойдзе побач таго, хто ў найбольш рашучую часіну падасьць ёй помач. Калі польскі ўрад і польскае насяленьне ў Беларусі злучаць свае сілы з беларусамі, калі будуць супольна працаваць над умацаваньнем дзержаўнасьці Беларусі,—замест таго, каб адрываць кускамі абшары болей спольшчэныя, калі дапамогуць беларусам давесьці іхнюю справу да скліканьня ўстаноўчага сойму,—дык няма ніякай споркі, што гэтый-жа ўстаноўчы сойм, злажэны з прэдстаўнікаў ад зямель ужо вызваленых ад бальшавіцкага ярма і з учасьцем сільнага культурна і лічэбна польскага элемэнта з заходняй часткі, *выскажэцца за сувязь з Польскай Дзержавай,* аднальково карыснай для абедзьвых старон і канечнай. Ня трэба тады будзе ліць кроў польскіх жаўнераў, каб вызваляць ад бальшавікоў беларускія абшары, якія лежаць далей на ўсход; беларускі ўрад пры помачы Польшчы і Антанты здолее хутка ўтварыць сільную народную армію, якая — будучы пад глаўнай камандай польскай — з ахвотай пойдзе праганяць маскоўскіх захватнікаў з роднага краю.

Так сама і апровізацыйную справу, гэтак трудную для развязкі польскаму ўраду, можна будзе развязаць пры беспасрэднай помачы коаліцыі для Беларусі, незалежна ад таго, што павінна атрымаць Польшча.

Урэшце, адказнасьць за дзеяльнасьць адміністрацыі, якая цяпер знаходзіцца ў руках вялікіх землеўласьнікаў, ад польскага ўраду пяройдзе на шчыра дэмократычны беларускі ўрад, а адказнасьць дзеля таго, што ў Польшчы няма лішніх сіл, ёсьць надта вялікая. Беларускі народ сам павінен даць патрэбныя дзеля ўтварэньня адміністрацыйнага апарата сілы“.

**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Сьв. Міхальскі завул. 2, кв. 16. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Ваеннаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.